 


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 45 (247) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 5 ЛІСТАПАДА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР







Перадавыя людзі сямігодкі БССР. Брыгада, якую ўзначальвае знатны муляр Мінска, Герой Сацыялістычнай Працы Дзяніс Булахаў (другі злева) змагаецца за званне калектыва камуністычнай працы.

Пімен ПАНЧАНКА

## Слухай, Радзіма

Маці мая, Радзіма,  
Шчыра слова сказаць дазволь.  
Па цяжкіх ты дарогах хадзіла  
Праз галечу, праз бой і боль.

Пэўна б, горкаю, невыноснаю  
Рэчка долі тваёй цякла,  
Калі б ты найлепшых сыноў сваіх  
Камуністамі не нарэкла.

Ты свой лёс даверыла ленінцам.  
Слухай, маці, голас Крамля:  
Дваццаць год міне —  
Пераменіцца,  
Запраменіцца шчасцем зямля.

Па натхненню і строгаму графіку  
Маладзець, багацець будзеш ты...  
Дэлегацкія біяграфіі —  
Гэта твой жыццяпіс залаты.

Дык заходзь жа на з'езд і горда  
Сядзь між лепшых сваіх дзяцей.  
Паглядзі:  
Камуністаў кагорта  
Туліць будучыню да грудзей.

Каб змагла ты яе дачакацца,  
Каб змагла Камунізм ты сустрэць,  
Будзем самі сівець мы на працы,  
А табе не дазволім старэць.

# ФУНДАМЕНТ СВЕТЛАГА ЗАЎТРА

Камуністычная партыя Савецкага Саюза ўрачыста абвясціла, што ўжо цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме. Фундаментам велічнага будынку светлага заўтра з'явіцца матэрыяльна - тэхнічная база камунізма. Стварэнне яе на працягу бліжэйшых двух дзесяцігоддзяў ставіцца як галоўная эканамічная задача партыі і савецкага народа.

У Праграме КПСС вызначаны захапляючыя перспектывы роста цяжкай індустрыі. Аб'ём прамысловай прадукцыі павялічыцца к 1970 году прыкладна ў два з палавінай раза, а к 1980 году — не менш чым у шэсць разоў.

На працягу першага дзесяцігоддзя СССР пераўзыйдзе сучасны ўзровень прамысловай вытворчасці самай развітай капіталістычнай краіны — ЗША, а к 1980 году пакіне яго далёка ззаду.

Праз 20 год чорная металургія СССР дасягне ўзроўню, які дазволіць выплаўляць прыкладна 250 мільёнаў тон сталі ў год. 250 мільёнаў! Гэта ж прыблізна столькі, колькі зараз выплаўляюць у год усе іншыя краіны свету разам узятыя.

За мінулыя 20 год ЗША павялічылі гадавую выплаўку сталі прыкладна на 30 мільёнаў тон, а СССР у наступным 20-годдзі павялічыць амаль на 185 мільёнаў тон.

У 1919 годзе Савецкі Саюз атрымліваў усяго 199 тысяч тон сталі. За чатыры дзесяцігоддзі СССР зрабіў гіганцкі скачок, павялічыўшы вытворчасць сталі больш чым у 320 разоў, давёўшы выплаўку яе да 65,3 мільёна тон у 1960 годзе.

Каб атрымаць 250 мільёнаў тон сталі ў 1980 годзе, неабходна давесці штогадовую здабычу жалезнай руды да 400 мільёнаў тон. Багацці СССР дазваляюць паспяхова вырашыць гэтую задачу. Толькі ж у нетрах Курскай магнітнай анамаліі знаходзіцца звыш 700 мільярдаў тон жалезнай руды. Гэтых запасаў дастаткова для таго, каб забяспечыць патрэбнасць у жалезнай рудзе ўсяго свету на многія стагоддзі.

(Працяг на стар. 2)

## АПОВЕСЦЬ ПРА ЛЕНІНА

Адным з апошніх фільмаў аб Леніне з'яўляецца кінакарціна «Аповесць пра Леніна», пастаноўка «Мосфільма». Гэта фільм аб апошніх гадах жыцця правадыра Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі: паказвае ён Леніна перад усім як чалавека. Ленін часта тады хварэў. Лекары не дазвалялі яму працаваць, прыказвалі аставацца ў ложку. Але Ленін не мог прымірыцца з гэтым. Ён неаднойчы ўпотай вырываўся са сваёй дачы і прымаў удзел у рабочых мітынгах, кіраваў адраджэннем новага жыцця ў новай савецкай дзяржаве.

Гэты фільм абавязкова трэба паглядзець.



На здымку: пры хворым Леніне яго верны сябра (справа) Надзея Крупская. Ролю Леніна выконвае артыст М. Штраўх.

 



Вуліца ў Пасеках

# ЛЯСНАЯ ВЁСКА МУРУЕЦЦА

Пасекі — лясная вёска ў Гайнаўскім павеце. Цудоўная тут аколіца. Вакол вёскі шуміць-красуецца старая Белавежская пушча. Яна была заўсёды роднай маці жыхарам вёскі. Пушча карміла, апранала, абувала людзей. А калі заходзіла патрэба, давала ім надзейнае сховішча. Не змагла толькі пушча абараніць пасецкіх сялян ад гітлераўскіх нелюдзяў. У 1942 годзе фашысты, каб перашкодзіць супрацоўніцтву сялян з партызантамі, жыхароў Пасек вывезлі, а вёску спалілі дашчэнту.



Склеп з камення моцны, выгодны і прыгожы

У 1944 годзе, пасля вызвалення, людзі вярнуліся на папялішчы. Жылі ў прымітыўных зямлянках. І зноў пушча прыйшла з дапамогай. У канцы 1950 года вёска была пабудавана, людзі сталі жыць па-чалавечы.

Але вось у 1959 годзе ў вёсцы здарылася вялікае няшчасце. 5-гадовы хлопчык, забаўляючыся запалкамі, падпаліў шопку з сенам. Ад яе занялася ўся вёска. Смалістая белавежская сасна гарыць як порах. Пажарныя каманды, якія прыехалі з Гайнаўкі, Нараўкі і Нарвы, не змаглі ўратаваць вёскі. Яна ізноў згарэла дашчэнту. Разам з вёскай згарэла і ўся збажына, якую сяляне паспелі звезці ў клуні.

Каб не дапамога дзяржавы, цяжка пасецкім пагарэльцам было б стаць ізноў на ногі. ПЗУ выплаціў пагарэльцам па 70—80 тысяч злотых. Гэта дапамагло сялянам пачаць будавацца. Але як будавацца?

На сходзе партыйнай арганізацыі абмяркавалі гэтую справу. Члены партыі выйшлі з прапановай будаваць вёску, якая б не баялася агню. Адначасова вырашылі грунтоўна перабудаваць вясковую вуліцу. А была яна тут вельмі вузкая. Едзе чалавек з фурай, дык не размінецца з другім.

— Калі будзем будавацца ў паасобку, — гаварыў сакратар партыйнай арганізацыі Павел Сачко, — дык не дамо рады. Трэба супольна, усёй вёскай узяцца за гэтую справу.

Па ініцыятыве партыйнай арганізацыі ў Пасеках сарганізавалі будаўнічы калектыў. Да яго прыступіла 22 асобы.

Дзяржава дапамагла ў закупцы будаўнічых матэрыялаў і стварыла вельмі карысныя ўмовы. Хто, напрыклад, пабудаваў мураваны хлеў або клуню, атрымоўваў 5 тысяч злотых узнагароды. А хто пабудаваў мураваную хату, атрымаў 10 тысяч злотых узнагароды.

Зараз Пасекі зусім інакш выглядаюць. Тут шырокая, добра выбрукаваная вуліца. Па баках брукаваныя ходнікі. У вёсцы ўжо налічваецца 20 мураваных гаспадарчых будынкаў (хлявы, клуні), а Фёдар Тарасевіч пабудаваў мураваную хату. Пад мураваныя дамы закладаюць фундаменты Мікалай Лясота, Васіль Тарасевіч і Аляксандр Лясота. У недалёкай будучыні больш гаспадароў прыступіць да пабудовы мураваных дамоў. Усе будынкі ў Пасеках пакрыты чарапіцай.

Але будаўнічыя матэрыялы такія, як, напрыклад, цэгла ці цэмент, даволі дарагія.

— Гэта прымусіла мяне задумацца, — гаворыць Павел Сачко, — як вынайсці спосаб, каб будавацца танейшым коштам. Вычытаў я ў газеце, што вельмі практычныя будынкі з драўлянага пілавіння. Пастанавіў паспрабаваць. Пілавіння ў нас было хоць завалiся. Грайзэга будаўнічага калектыву працавала бесперапынна.

Калі Сачко пачаў будаваць свіран, некаторыя з яго смяяліся.

— Хто ж гэта бачыў, каб з пілавіння будынак ставіць. Ён і двух тыдняў не пратрымае. Пры першым лепшым дажджы разваліцца, — гаварылі.

Але Сачко мала на гэта звяртаў увагі. Рабіў сваё. Незадоўга зруб быў пастаўлены. І ніякія дажджы яму не шкодзілі. Вопыт Сачка перанялі другія. Язэп Лясота і Іван Скепко пабудавалі такія хлявы. Іншыя таксама пачалі будаваць такім метадам. Да Паўла Сачка прыходзяць цяпер нават з адлеглых вёсак, каб паглядзець на «незвычайны» будынак і пераняць вопыт. Сачко ахвотна людзей інфармуе.



Павел Сачко будуе хлеў з пілавіння

— Бярэцца, — гаворыць ён, — 1/2 частку пілавіння, 1/2 частку жвіру, 1/7 частку цэменту, дадаецца вапны і перамешваецца гэта з вадою так, каб не было празмеру рэдкае і каб не цякло. Падрыхтаваную такім чынам сумесь убіваецца таўкачом паміж дошак. Пры сонечным надвор'і дошкі можна адняць на другі дзень і гэтак жа паўтараць усё вышэй аж да заканчэння зруба.

Будынак пабудаваны такім метадам вельмі цёплы, ён зусім не трымае вільгаці і кошт яго невялікі. Пабудова свірна размерам 12х5 метраў у Паўла Сачка каштавала ўсяго толькі 5 тысяч злотых (будаваў ён сам).

Пройдзе яшчэ нейкі час і ў Пасеках большасць будзе такіх будынкаў. Выгляд вёскі будзе яшчэ больш культурны, а жыхароў перастане трывожыць пагроза страшэннага пажару.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**
**Фота. А. Казберук**

## Звесткі аб дзейнасці Аддзела БГКТ у Гайнаўцы

Ад 1 кастрычніка г. г. я працую інструктарам на павет Гайнаўка. Перш за ўсё пазнаёмілася я з работай Аддзела і паасобных гурткоў. Цікавіла мяне тое, хто належыць да актыву Аддзела і тады як мага хутчэй з імі пазнаёміцца і пачаць работу. Першае пасяджэнне адбылося 12 кастрычніка, на якім прысутнічаў прадстаўнік ГП БГКТ тав. Яновіч. У пасяджэнні прымалі ўдзел амаль усе члены актыву. І тут я пазнаёміла прысутных з планам сваёй працы на ІV чвэрць 61 года.

Цяжка мне было прызвычаіцца да працы на новым месцы. Але дзякую тав. Яновічу, які ўвёў у работу, пазнаёміў дакладней з усім, правёў некалькі сходаў гурткоў у маёй прысутнасці. Цяпер увесь актыў прыняў удзел у правядзенні сходаў, каб аднавіць працу ў гуртках. (Хто адказны за гурток таксама зазначана ў плане работы Аддзела).

На сходзе ў Старым Ляўкове разам з тав. М. Самоцікам, а таксама з кіраўніком мастацкага гуртка В. Цялушэцкім быў праведзены аналіз мастацкага гуртка і зроблены план работы на асенне-зімовы перыяд. Горш было на сходзе ў Масеве. Там, з таго часу, як быў сарганізаваны гурток, ніхто яшчэ не быў. Дзякуючы настаўніку беларускай мовы ў Масеве тав. Чэртовічу адбыўся сход, абмеркавалі план і прыступілі да працы. Перад усім моладзь прасіла, каб даць магчымасць заняцца чым-небудзь у доўгія вечары. Актыўны настаўнік пачаў культурна-асветную работу з моладдзю ў Масеве.

**Інструктар БГКТ**
**В. ЮШЧУК**

# КЛЮКОВІЦКІЯ

Новаму чалавеку, які прыедзе ў вёску Клюковічы, здаецца, што тут нічога не робіцца, жыццё быццам бы па-старому тут «плыве». Такая думка нараджаецца, калі глянем толькі звонку на вёску. Бо амаль нічога ніхто тут не будуе; зямля, якая акружае вёску, відаць не надта ўраджайная, і таму адразу дае ўяўленне аб бедным жыцці. Але не, прыглядаемся бліжэй хатам і панадворкам. Усе пабудовы нядрэнныя, шмат новых. У вокнах фіранкі. На панадворках балановыя вазы і іншыя гаспадарчыя прылады, аб якіх даўней можна было толькі марыць. Святочную вопратку жыхары вёскі маюць таксама даволі добрую. Нашае ўяўленне аб матэрыяльным жыцці клюковічан тады іншае, суцяшаючае. І нават пасля некалькіх гадзін мы даведаемся, што ў Клюковічах людзі жывуць не толькі справай «лыжкі і міскі», але маюць высакародныя і рэальныя імкненні. Аб гэтым яны самі гавораць, аб гэтым «голасна думае» клюковіцкая моладзь, якой тут шмат. Многія маладыя людзі выехалі на працу ў гарады. Шмат дзяўчат і хлапцоў вучыцца ў сярэдніх школах. Яны не забываюць аб роднай вёсцы і таму іх заўсёды з любасцю сустракаюць аднавяскоўцы.

### «ШТАБ» КУЛЬТУРЫ

У Клюковічах ёсць 7-класная школа, паштовая ўстанова, пункт аховы здароўя і знаходзіцца сядзіба ГРН. Няма найважнейшага для моладзі: святліцы. Але затое моладзь мае ў сваёй вёсцы інтэлігентны 5-асабовы настаўніцкі калектыў на чале з загадчыкам школы Язэпам Палкай. Дзякуючы настаўнікам ужо ў традыцыю ўвайшло існаванне драматычнага маладзёжнага гуртка, які ў кожны сезон выступае не толькі ў сваёй вёсцы, але таксама і ў суседніх, з дзвюма п'есамі. Настаўнікі, дарэчы, актыўна ўключаюцца ў грамадска-палітычнае жыццё ўсёй аколіцы. Язэп Палка з'яўляецца сакратаром Грамадскага камітэта ПАРП у Клюковічах, а таксама актыўным членам мясцовага сельскагаспадарчага гуртка. Выкладчыца беларускай мовы Вера Зіневіч з'яўляецца старшынёю гуртка ССМ. Настаўніцкі калектыў распаўсюджвае чытанне газет і кніжак у вёсцы шляхам праводжання дыскусійных і заахвочваючых гутарак з сялянамі.

### ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА...

Асобны раздзел у гісторыі клюковіцкай пачатковай школы складзе існаванне школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

У мінулым годзе Інспектарат асветы ў Сямяцічах запрапанаваў настаўніцкаму калектыву ў Клюковічах арганіза-

 

# ФУНДАМЕНТ СВЕТЛАГА ЗАЎТРА

Працяг са стар. 2

Па меры падзешаўлення вытворчасці атамнай энергіі разгорнецца будаўніцтва атамных электрастанцый. Атамная электрастанцыя магутнасцю ў 400 тысяч кілават штодзённа расходуе замест 250 вагонаў вугалю ўсяго некалькі кілаграмаў слабаўзбагачанага ўрану. Зараз будуецца Нова-Варонежская атамная электрастанцыя магутнасцю ў 420 тысяч кілават і Белаярская (паблізу ад Свярдлоўска) магутнасцю ў 200 тысяч кілават.

У наступным дваццацігоддзі ўсямернае развіццё атрымае хімічная прамысловасць, якая ў велізарнай ступені расшырыць магутнасці росту




**Рост сельскай гаспадаркі (у працэнтах).**

народнага багацця, выпуску новых, больш дасканалых і дзяшовых сродкаў вытворчасці і прадметаў народнага спажывання. Ужо за першыя два гады сямігодкі ў СССР увайшло ў строй 60 новых хімічных заводаў і буйных вытворчасцей.

Першаступеннае значэнне для тэхнічнага пераўзбраення ўсёй народнай гаспадаркі мае развіццё машынабудавання. К 1980 году патрэбнасці народнай гаспадаркі ва ўсіх відах сучасных машын, станкоў і апаратуры будуць поўнасцю задаволены.

У першым дзесяцігоддзі ажыццёвіцца комплексная механізацыя ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, будаўніцтве, на транспарце, пагрузачна - разгрузачных работах, у камунальнай гаспадарцы. На працягу дваццацігоддзя будзе дасягнута ў масавым маштабе комплексная аўтаматызацыя.

Дваццацігадовы план прадугледжвае магутны ўздым прадукцыйных сіл сельскай гаспадаркі.

Агульны аб'ём прадукцыі сельскай гаспадаркі за 10 год павялічыцца прыкладна ў два з палавінай раза, а за 20 год — у тры з палавінай раза. Савецкі Саюз, у першым дзесяцігоддзі пераганіць ЗША па вытворчасці асноўных сельскагаспадарчых прадуктаў на душу насельніцтва.

Валавая вытворчасць збожжавых культур павялічыцца на працягу дваццацігоддзя больш чым у два разы, а іх ураджайнасць — падвоіцца.

Хуткімі тэмпамі будзе развівацца жывёлагадоўля. Аб'ем вытворчасці жывёлагадоўчых прадуктаў павялічыцца: па мясу за першае дзесяцігоддзе — прыкладна ў тры разы, а за дваццаць год — амаль у чатыры разы, па малаку — за дзесяць год больш чым у два разы, а за дваццаць год — амаль у тры разы.

Важнейшай умовай перамогі камунізма з'яўляецца няўхільны рост прадукцыйнасці працы ва ўсіх галінах вытворчасці. Ставіцца задача — на працягу дзесяці год узняць прадукцыйнасць працы ў прамысловасці больш чым у два разы, а за дваццаць год— у чатыры — чатыры з палавінай раза.

Праз 20 год прадукцыйнасць працы ў савецкай прамысловасці перавысіць сучасны ўзровень прадукцыйнасці працы ў ЗША прыкладна ў два разы, а па гадзіннай выпрацоўцы — у сувязі са скарачэннем рабочага дня ў СССР — значна больш.

Хуткімі тэмпамі будзе расці прадукцыйнасць працы і ў сельскай гаспадарцы. Тут яна павысіцца на працягу дзесяці год не менш чым у два з палавінай раза, а за дваццаць год — у пяцьшэсць разоў. Такі імклівы рост прадукцыйнасці сельскагаспадарчай працы — больш высокі па сваіх тэмпах, чым у прамысловай вытворчасці — дазволіць ліквідаваць адставанне сельскай гаспадаркі ад прамысловасці і ператварыць яе ў высокаразвітую галіну гаспадаркі камуністычнага грамадства.

Асновай павышэння прадукцыйнасці сельскагаспадарчай працы паслужыць далейшая механізацыя сельсакай гаспадаркі, прымяненне комплекснай механізацыі і выкарыстанне сродкаў аўтаматыкі.



## НАФТАПРАВОД «ДРУЖБА»



Будова нафтаправода — гэта буйнейшая ў свеце магістраль такога роду. Яна злучыць з нафтаноснымі раёнамі Савецкага Саюза Польшчу, Чэхаславакію, ГДР і Венгрыю. Даўжыня ўсёй сістэмы нафтаправода каля 5000 км. На гэтай вялікай мірнай будоўлі працуе савецкая магутная і багатая тэхніка.

## УСЯКАЯ

**Канцэрн Крупа — зараз найбольшае прамысловае прадпрыемства ў Нямецкай Федэратыўнай Рэспубліцы. Яго гадавыя абароты складаюць суму 4 мільярды марак. У яго прадпрыемствах у горнай прамысловасці працуе 105 тысяч чалавек, а металургічнай — 55 тысяч чалавек. Канцэрн на працягу года прадукуе 5,6 мільёнаў тон вугалю і 4 мільёны сталі. Канцэрн адыгрывае вялікую ролю ў хімічнай прадукцыі, прадукцыі машын, самаходаў, самалётаў, караблёў, дакладных інструментаў і сталёвых канструкцый. Апрача таго Круп бярэ ўдзел у падрыхтоўцы будовы запланаванай атамнай электрастанцыі.**

**Зараз у Іране толькі 5 тысяч сельскагаспадарчых машын, 4 тысячы турмаў, 11 тысяч лімузын (легкавых машын) у самым Тэгеране, а таксама адна тысяча заграніычных фірмаў, якія штогод выціскаюць з краіны 300 мільёнаў даходу.**

**Адначасова ў Іране 85 працэнтаў зямельных угоддзяў у руках памешчыкаў, а толькі 15 працэнтаў маюць сяляне.**

**У Іране 80 працэнтаў непісьменнага насельніцтва. У гэтай краіне на 125 тысяч жыхароў прыпадае адзін зубны ўрач, а адзін хірург — на 500 тысяч чалавек. Сярэдняя працяжнасць жыцця не перавышае 27 гадоў.**

## ЎСЯЧЫНА

**Адзін на свеце эксперт ад птушынага пер'я, Гансэн (Данія) аблічыў, што качка зімою мае на сабе 1491609 пярынак, верабей толькі 2551, жаваранак 4496. Гансэн сарганізаваў у 1957 годзе адзіны на свеце музей пярынак, у якім знаходзіцца 10 мільёнаў класіфікаваных экспанатаў.**

**Лекары амерыканскага ваенна-марскога флота адкрылі спецыфічнае лякарства, якое ліквідуе працяглыя дрэнныя вынікі надмернага спажыцця алкаголю. Гэтае лякарства складаецца з мяшанкі розных хімікаліяў, ліквідуе надквасоту і скурчы жалудка, якія выступаюць у перапіўшагася, а таксама псіхічную дэпрэсію.**

**Новае лякарства выпрабавалі на некалькіх сотнях студэнтаў. Аказалася, што яно хутка дзейнічае і не з'яўляецца шкодным для іншых частак арганізма.**

## Чым выклікан лішні рост валасоў на твары жанчыны

Ператварэнне пушковых валасоў у жорсткія, грубыя валасы назіраецца ў жанчын у перыяд або палавога паспявання, або ў перыяд старэчага завядання арганізма. У гэты час малапрыкметныя пушковыя валасы пачынаюць цямнець, падаўжацца, патаўшчацца і ператвараюцца ў касметычны недахоп. Гэты факт сведчыць аб несумненнай сувязі захворвання з парушэннямі ў эндакрыннай і палавой сістэмах. Часцей за ўсё лішні рост валасоў на скуры твару звязан з парушэннем функцыі шчытападобнай залозы, яечнікаў, надныручнікаў і іншых залоз унутранай сакрэцыі.

Часам узмоцнены рост валасоў выкліканы няправільнымі, неабдуманымі дзеяннямі самой жанчыны. Так, напрыклад, пры з'яўленні невялікага пушку на падбародку, верхняй губе або шчоках жанчыны пачынаюць яго вырываць пінцэтам або галіць, сціраць пемзай. У выніку пастаяннага механічнага раздражнення на месцы светлых тонкіх пушковых валасоў з'яўляюцца цёмныя, тоўстыя, жорсткія валасы. Таксама нельга карыстацца дэпілярорыямі, якія толькі на кароткі прамежак часу ліквідуюць валасы, але пры частым карыстанні імі таксама прыводзяць да ўзмоцненага росту валасоў. Жанчынам з наяўнасцю густых пушковых валасоў не рэкамендуецца карыстацца белячымі мазямі і пажыўнымі крэмамі, што таксама можа прывесці да ўзмоцненага росту валасоў.

На жаль, органы аховы здароўя недастаткова ўсвядомілі неабходнасць шырокага ўкаранення ў медыцынскія ўстановы лячэння электролізам, які ў цяперашні час з'яўляецца адзіным радыкальным метадам лячэння гэтага цяжкага касметычнага недахопу. Пакуль такі метад лячэння ўжываецца толькі ва ўрачэбна - касметычных кабінетах. Пры гэтым метадзе лячэння разбураецца валасяны сасочак, з якога пачынаецца рост воласа.

## НАРОДНЫЯ ЗВЫЧАІ



Большасць жыхароў Манголіі — мужчыны і жанчыны — носяць штодзённа народныя ўборы.

 

